


*Верш-прысвячэнне з аўтографам Сыракомлі*
*ў экзэмпляры першага выдання песні «Lirnik wioskowy».*

мейсцовых, беларускі… Апрача польскіх вершаў, Кондратовіч для нас беларусоў даў ешчэ і творы на чыста беларускай мове. Беларускіе творы Кондратовіча апрача двох-трох кавалачкаў дагэтуль ешчэ не друкаваны. Часць рукапісоў беларускіх твораў Кондратовіча мае п. Коротынскі у Варшаве, і кажуць, бытцым гэтые вершы маніцца выдаць адна з варшаўскіх кнігарэнь… мы ведаем, што Кондратовіч многа пісаў па беларуску і пісаў хораша.» («Наша ніва», 1912, № 36).

Да сталецця ад нараджэння Уладзіслава Сыракомлі прысвечана сціплае выданне з кнігазбору П. Ф. Глебкі, які ўладкаваўся ў мемарыяльным кабінеце паэта, што знаходзіцца на шостым паверсе ЦНБ НАН Беларусі. Гэта непрыкметная брашурка беларускага і расійскага публіцыста, аднаго з заснавальнікаў кніжнага таварыства «Мінчук», Сулімы (Уладзімір Самойла (1878—1941)) «Праф. Зьдзехоўскі аб беларускай душы». Віленскае выданне з Друкарні «Левін і Сын» (1924) змяшчае крытычныя заўвагі на лекцыю вядомага прафесара, польскага літаратуразнаўца Здзяхоўскага Мар’яна (1861—1938), якая была прачытана ў Віленскім універсітэце. Трэба дадаць, што прафесар быў ліберальным кансерватарам, праціўнікам бальшавізму, выступаў супраць права беларусаў на самавызначэнне, за далучэнне ўсіх беларускіх зямель да Польшчы. Разам з тым ён заклікаў надаць усходнеславянскім народам статус нацыянальных меншасцей, быў патрыётам «малой» Айчыны (нарадзіўся ў вёсцы Ракаў Мінскага павета). У 1924 годзе выйшаў яго нарыс «Уладзіслаў Сыракомля: Літоўска-беларускі элемент у польскай творчасці». Здзяхоўскі сцвярджае, што галоўны пафас беларускай душы паэта ў яго «пачуцці прыроды», быццам і паэт пазнаваў паднёманскія сенажаці па іх паху, а дрэвы — па шуму лістоў… «Паэзія Сыракомлі становіць духоўную граніцу паміж Літвой (Беларусьсю) і Каронай (Польшчай)», — так лічыць польскі літаратуразнаўца. Пра такіх,


NASZA NIWA

Ab usiom pa trochu.

WŁADYSŁAU SYROKOMLA.

Hutarki ab haspadarcy.

*Упершыню ў беларускім друку імя Сыракомлі згадваецца на старонках «Нашай нівы» (1908, № 1).*

як Сыракомля, кажуць: «Ад сваіх адстаў, але да чужых ня прыстаў». Але ж гэта індывідуальная думка аўтара, з якой можна і не згаджацца.

У польскім, рускім і літоўскім друку Сыракомлю называюць «літоўскім лірнікам», «літоўскім паэтам», «песняром Літвы». У XIX стагоддзі паняцце «Літва» суадносілася з колішнім Вялікім Княствам Літоўскім, гэта значыць, і з этнаграфічнай Літвой, і з Беларуссю. «Літоўскімі» называліся Віленская, Гродзенская, Мінская губерні, а Віцебская і Магілёўская — «Белай Руссю». Гаворачы пра Літву як сваю радзіму, паэт меў на ўвазе менавіта беларускія землі. Літва Сыракомлі — гэта перш за ўсё беларускае Палессе з вёскай Смольгаў, дзе нарадзіўся паэт, гэта Капыльшчына, Нясвіжчына, Стаўбцоўшчына, дзе прайшла асноўная частка яго жыцця. Пераезд з ціхага прынёманскага фальварка Залуча ў Вільню, а затым у суседні з ёю фальварак Барэйкаўшчына паскорыў напісанне яго краязнаўчых прац. Як сцвярджае даследчык творчасці паэта У. Мархель, твораў, тэматычна звязаных з этнаграфічнай Літвой, у яго вельмі мала. Перш за ўсё гэта паэма «Маргер», якая расказвае пра барацьбу літоўскага народа з крыжакамі ў першай палове XIV стагоддзя. У фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў захоўваюцца тры экзэмпляры, з іх адно прыжыццёвае — 1855 года, выдадзенае ў Вільні, пазнейшае выйшла з друку ў Варшаве ў 1903 годзе. На паданні, узятым з гэтай жа працы, заснаваў паэт і сваю «аповесць з літоўскай гісторыі» «Дачка Пястаў». У бібліятэцы захоўваецца выданне, якое выйшла ў віленскай друкарні Ю. Завадскага ў 1855 годзе накладам Р. Рафаловіча. У кнізе змешчаны музычны твор польскага кампазітара, сябра паэта, Станіслава Манюшкі «Паходная песня ліцвінаў» на словы Сыракомлі. Гэты твор — адзін з варыянтаў арыгінальнай старадаўняй песні, які пераносіць нас у далёкія часы. Весела шуміць лес, ліцвіны выступілі ў паход, спяваюць бадзёрую песню пра свае подзвігі. Заўтра будзе бой. Каб толькі коні не падвялі і стаялі смела! У добры час…

Сярод іншых твораў Уладзіслава Сыракомлі, да якіх пісалася музыка Станіслава Манюшкі (каля дваццаці песень), у біблія-

тэцы ёсць экзэмпляр першага выдання песні «Lirnik wioskowy» на верш «Вясковы лірнік», выдадзены накладам Ю. Завадскага ў Вільні ў сярэдзіне XIX стагоддзя. На адвароце тытульнага ліста напісаны верш-прысвячэнне з аўтографам Сыракомлі. Дванаццацірадковы верш паэт напісаў, на думку даследчыка Мархеля, экспромтам у час адной з літаратурна-музычных вечарын. На гэта паказваюць адна папраўка і непасрэднасць зместу твора. Верш адрасаваны аднаму з прысутных на вечарыне — «добраму Фаустыну» з просьбай прыняць падарунак ад прыхільнікаў ягонага таленту і памятаць пра сваё прызванне — іграць на віяланчэлі. Гэты твор змешчаны ў сёмым томе збору паэзіі Сыракомлі (1872) як прысвячэнне Фаустыну Лапатынскаму. Пад вершам-прысвячэннем, напісаным рукой паэта, услед за Сыракомлем падпісаліся Баляслаў Навінскі (акцёр Віленскага тэатра), Мікалай Акялевіч (вядомы літоўскі пісьменнік), Эміль Дэрынг (акцёр Віленскага тэатра) і іншыя. Калектыўны подпіс пад вершам Сыракомлі ў зборніку замыкае Паўліна Кандратовіч, жонка паэта.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў захоўваецца яшчэ адзін нотны запіс з песнямі і баладамі на словы Сыракомлі. Гэта нотны зборнік сялянскіх песенек пад адзінай назвай «Nad Nidą» («Над Нідай») з віленскай друкарні Завадскага. Прыжыццёвае выданне Станіслава Манюшкі, якое змяшчае песні і балады на словы Сыракомлі, Вольскага, Чачота. У зборніку музычныя творы на тэксты вершаў Сыракомлі «Каласок», «Песня войта», «Перапёлка», «Вечаровая».

На музыку Манюшкі паэт напісаў лібрэта да оперы «Вешчы сон» (у трох актах). У бібліятэцы захоўваецца віленскае выданне 1854 года з друкарні Завадскага, у якое, апрача лібрэта, увайшла прадмова Сыракомлі.

Тэма Літвы «гучыць» і ў гістарычна-краязнаўчых працах — «Экскурсіі па Літве вакол Вільні» (1857), «Манаграфія ракі Нёмана ад вытокаў да Коўна» (1861); драме пра абарону Ольштына «Каспар Карлінскі» (1858). Экзэмпляр «Каспара Карлінскага» (Вільна, 1858) з дарчым надпісам на авантытуле. Кніга падаравана рэдактарам гэтага выдання Паўліне Кандратовіч, жонцы паэта.

«Манаграфія ракі Нёмана ад вытокаў да Коўна» была апублікавана ў кнізе «Нёман ад вытокаў да вусця» (Вільна, 1861). У кнізе змешчаны звесткі па гісторыі, геаграфіі, «этнаграфіі наднёманскага народа». Напрыклад, аўтар распавядае пра тагачасны гандаль, пра асаблівасці быту прынёманскіх гарадоў, мястэчак і вёсак, такіх як Даўгінавічы, Кручкі, Пясочнае, Стоўбцы, Залуча, Масты, Гродна і іншыя.

Уладзіслаў Сыракомля часта падарожнічаў як па этнаграфічнай Літве, так і па беларускіх мясцовасцях. Вынікам гэтых экскурсій з'явілася кніга дарожных нарысаў «Экскурсіі па Літве ў радыусе ад Вільні» у 2-х тамах, першы з якіх выйшаў у 1857-м, другі — у 1860-м. У кнізе аўтар скрупулёзна апісвае помнікі гісторыі і культуры, якія сустракаліся яму ў дарозе, асаблівасці быту, мовы, культуры ў той ці іншай мясцовасці. Для беларускай этнаграфіі маюць цікавасць пададзеныя ў кнізе звесткі пра міграцыі і склад насельніцтва на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага, сведчанні пра сучасны на той момант быт сялян і гараджан на беларуска-літоўскім пагранічча, што знайшло сваё адлюстраванне асабліва ў раздзеле «Дарога з Вільні да Ашмян». Праўда, каштоўнасць кнігі, на думку даследчыка творчасці пісьменніка К. Цвіркі, зніжаецца тым, што быт і культура літоўцаў паказана вельмі павярхоўна. Прычынай гэтага, як неаднаразова прызнаецца аўтар, было тое, што ён не ведаў літоўскай мовы і не мог размаўляць з літоўскім насельніцтвам.

Пачынаючы з 1856 года Сыракомля некалькі разоў наведваў Польшчу, знаёміўся з Варшавай, Вроцлавам, Кракавам, Познанню. У выніку гэтага ў друку з'явіліся вершаваныя ўражанні пра падарожжы і празаічныя нататкі, якія разам са знойдзенымі рукапісамі былі выдадзены У. Каратынскім у 1914 годзе ў Варшаве асобнай кнігай пад назвай «Падарожжа сваяка па сваяцкай зямлі». Тут аўтар увесь час параўноўвае асаблівасці быту палякаў з бытам беларусаў і часткова літоўцаў. У раздзеле «Розніца паміж Каронай і Літвой» ён гаворыць, што «тут, на польскім баку Нёмана, усё не такое, як у нас…». У ЦНБ НАН Беларусі ёсць два экзэмпляры гэтага выдання з экслібрысамі




*Паэтычныя зборнікі Сыракомлі.*

Мікалая Біржышкі (1882—1962) і Міхаіла Брэнштэйна (1874—1938), археолага, гісторыка літоўскай культуры.

Свае матэрыялы па гісторыі і этнаграфіі Беларусі Сыракомля змяшчаў і ў перыядычных выданнях. У фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі захоўваецца віленскі часопіс «Teka Wileńska» (1857, № 1, 2), у якім надрукавана яго манаграфія, прысвечаная гісторыі горада Мінска. Над гэтым творам паэт працаваў працяглы час, прынамсі з 1853-га да 1859-га. У «Teke Wileńskiej» друкавалася толькі адна частка апісання Мінска (паводле сведчання жонкі паэта Паўліны Кандратовіч). Другая частка засталася ў рукапісным варыянце. У першай частцы пад назвай «Агульны погляд на сучасны стан Мінска» аўтар апісвае асобныя мясціны горада (каштоўныя, напрыклад, апісанні мінскіх касцёлаў і цэркваў, іх інтэр'ераў і асабліва карцін, якія там захоўваліся), падае звесткі пра гандаль, стан асветы, заняткі жыхароў горада, пра медыцынскае абслугоўванне і тое, як адпачывалі мінчане болей чым сто гадоў таму. Найбольшую цікавасць мае адзін з раздзелаў: «Даследаванне над даўнімі крывічамі», дзе аўтар падае арыгінальную інтэрпрэтацыю міфалогіі, звычаяў, побыту продкаў беларусаў. Свае вывады даследчык рабіў на аснове ўласнага назірання і даследавання вераванняў, паданняў, песень, звычаяў і абрадаў («Каляды», «Купалле», «Дзяды», «Дажынкі») беларускага народа.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў захоўваецца дзесяцітомнае выданне (Варшава, 1872), у якім надрукаваны вершаваныя творы паэта. Прынамсі, чацвёрты том «Паэзіі Людвіка Кандратовіча» пачынаецца з паэмы «Стэла Фарнарына» (1859) — пра светлае каханне Рафаэля да дачкі рымскага пекара Стэлы, якая натхніла мастака на стварэнне славутай «Сіксцінскай мадонны». Гэта адзіны твор Уладзіслава Сыракомлі, які быў надрукаваны ў Мінску. У зборніку таксама змешчаны лібрэта да оперы «Маргер» (1853), драматычны твор «Хатка ў лесе» (1855), верш «Ілюмінацыя» (1856), адзін з найбольш яскравых, якога баяліся царскія цэнзары. Дарэчы, гэты верш пераклаў на рускую мову Васіль Быкаў.

Па правененцыям, якія ёсць амаль што ў кожнай кнізе гэтага дзесяцітомнага выдання, можна згадаць, каму яны належалі. Напрыклад, у чацвёртым і сёмым тамах на форзацы выдання прыклеены герба-

вы экслібрыс Міхаіла Станіслава Корвін-Касакоўскага (1883—1962), графа, уладальніка маёнтка Нідока ў Ковенскай гіберні. А на тытульным аркушы восьмага тома ўладальніцкі штамп кнігазбору ксёндза Юстына Сямашкі. Прысутнічаюць таксама штампы бібліятэк: Азербайджанскай Цэнтральнай Дзяржаўнай Бібліятэкі, Бібліятэкі Дому Польскага ў Баку, Бібліятэкі польскай гімназіі ў Коўне, Бібліятэкі «Seminarii Samogitiensis» і іншых.

У ЦНБ НАН Беларусі захоўваюцца два экзэмпляры першага тома пасмяротнага двухтомнага выдання 1879 года выбраных вершаў Сыракомлі, у перакладах на рускую мову Д. Мінаева, Л. Пальміна, М. Пятроўскага, Л. Меема, П. Вейнберга. Зборнік вершаў выйшаў у друкарні Маскоўскага ўніверсітэта. Гэты зборнік — прысвячэнне Сяргею Юр'еву (1821—1888), вядомаму рускаму літаратурнаму дзеячу XIX стагоддзя. Тэматыка вершаў цесна звязана з беларускім народным побытам. У зборнік увайшлі паэмы Сыракомлі, сярод якіх «Дабрародны Ян Дэмбарог». Творчасць Сыракомлі не надта шчодрая на пейзажныя замалёўкі. Больш таго, узнаўляючы карціны роднай прыроды, ён скупіўся на выяўленчыя сродкі. Паэт далёкі ад яе ўсхвалення, але ганарыцца адвечнай прастатой сваёй зямлі. Пераканацца ў гэтым дапаможа ўрывак з паэмы «Дабрародны Ян Дэмбарог»:

Святая Літва мая, краю мой родны,
Пустэчай пяскоў, дзірванамі ты плодны!
Не кінецца воку глухмень твая надта,
Не тое ў табе, што на поўдні прынадным…
Твой выгляд панурай акрасай напоўнен,
Малюнкаў цябе не пакажаш на поўдні…
(Пераклад У. Мархеля)

У бібліятэцы захоўваецца некалькі выданняў паэмы «Дабрародны Ян Дэмбарог», самае ранняе было надрукавана на польскай мове ў Пецярбургу ў 1852 годзе. Апрача яго, аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў захоўвае яшчэ восем выданняў, якія выйшлі ў Варшаве, Лодзі, Кракаве, Вільні і Львове. Самае позняе друкавалася ў віленскай тыпаграфіі «Зніч» у 1928 годзе. Кніга аздоблена дзевяццю гравюрамі з малюнкамі вядомага мастака Міхала Эльвіра Андрыёлі.

З твораў, напісаных паэтам на беларускай мове, наша літаратура атрымала ў спадчыну ўсяго два вершы: «Добрыя весці» (1848) і «Ужо птушкі пяюць усюды…» (1861). Верш «Добрыя весці» быў апублікаваны яшчэ пры жыцці аўтара ананімна ў другім выданні брашуры «Гутарка старога дзеда» (1862). Верш «Ужо птушкі пяюць усюды…» ўпершыню быў апублікаваны ў 1912 годзе пад назвай «Беларускі верш» і з заўвагай «Вільня, 1861 г.» у перыядычным выданні «Kurjer Litewski».

Творчасць Сыракомлі вельмі высока ацэньваў Максім Багдановіч. У сваім артыкуле «Белорусское возрождение» (1914) ён зазначыў, што гэты «багата адораны “краёвы” паэт», які праславіўся сваімі польскамоўнымі творамі, шмат пісаў і па-беларуску, «але не мог замацаваць у друку гэты апошні бок сваёй творчасці (за выключэннем рэвалюцыйнага верша “Заходзіць сонца”)». Максім Багдановіч зазначаў, што беларускія рукапісы Сыракомлі «дасюль чакаюць свайго выдаўца». У тым жа 1914-м сын беларускага пісьменніка і перакладчыка В. Каратынскага (у 1850—1862 гадах быў сакратаром Сыракомлі) Уладзіслаў здаў у набор двухтомнік неапублікаваных раней твораў паэта. Кніга так і не выйшла, і, паводле агульнапрынятай версіі, рукапісы Сыракомлі, якія захоўваліся ў Каратынскіх, загінулі падчас Варшаўскага паўстання 1944 года.

Трэба сказаць яшчэ пра адно выданне, якое мае самае непасрэднае дачыненне да Уладзіслава Сыракомлі, хоць гэта і не яго твор. На паліцы кнігасховішча аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі стаіць сціплая тоненькая кніжка камедый Аляксандра Варановіча, выдадзеная ў Вільні ў 1857 годзе. Сёння гэта рарытэт, які захоўвае памяць пра Уладзіслава Сыракомлю. Гэта выданне з яго кнігазбору, на вокладцы якога выціснуты суперэкслібрыс «Władysław Syrokomla». У кнізе захаваўся дарчы надпіс аўтара. Пра яго кнігазбор многа пісалі вядомыя даследчыкі, у тым ліку А. Мальдзіс, Г. Кісялёў, У. Мархель, К. Цвірка. У. Мархель сцвярджае, што ў кнігазборы сустракаліся кнігі з суперэкслібрысам. Нашай бібліятэцы пашанцавала, таму што адна з іх трапіла да нас.

# ПАСЯДЖЭННЕ НУМАР СЕМ




***Прывітанне, студэнт. Чаму сядзіш такі пануры, нос на квінту павесіўшы, як казаў Андрэй Лабановіч? Разумею: сесія на носе, і зусім не радуюць цябе калядкі, блінцы ды аладкі, каўбаскі ды шынкі, ламанцы ды разынкі, скокі жвавай казы і падарункі Дзеда Мароза, па-наску Зюзі.***

***А ўся прычына ў тым, што даўно вы, вучаная публіка, не наведвалі клуб студэнцкага гумару. А ён разнасцежвае свае дзверы для вас, у пярэдадзень Каляд (Віват!), Новага году (Віват! Віват!!!) і зімовай сесіі (тры сціплыя віваты!..).***

***Не сумуйце, студэнты! Усмешка, што застанецца на вашых вуснах па наведванні «Трэцяга семестра», адыграе сваю ролю і ў адвечным узаемапаляванні прафесара і студэнта…***

### ЧАЦВЁРТАЕ ПАДАРОЖЖА Ў XX СТАГОДДЗЕ

*І вось жа мы даўно з табою ўмовіліся, мой юны сябра, што альтэрнатыўную гісторыю нашай літаратуры складаеш ты — сваімі выказваннямі на семінарах, заліках, іспытах. Я ж выконваю сціплую ролю канстататара. І так, у творчым тандэме дабраліся мы да канца былога стагоддзя ды і такую стварылі гісторыю, што невядома што рабіць: смяяцца над ёю ці плакаць.*

☺ Андрэй Макаёнак напісаў вельмі актуальную і сёння п’есу, якая называецца «*Загроханы* апостал».

☺ Цярэшка Калабок больш хітраваты за сваю жонку. Яна ў яго простая.

☺ Герояў паэмы Аркадзя Куляшова «Цунамі» ўвесь час праследуюць прадукты чалавечай жыццядзейнасці.

☺ Пімен Панчанка напісаў паэму *«Гады»*.

☺ У творы Янкі Брыля праводзіцца глыбокая думка, што птушак цягне да свайго гнязда, а людзей — да сваіх дамоў. Адсюль можна зрабіць вывад, што людзі — не птушкі.

☺ Янка Брыль напісаў цэлую кнігу пра вясковых жартаўнікоў, падманшчыкаў і жулікаў, а называецца яна «Ніжнія *Бадуны*».

☺ «Пісьменнік Іван Шамякін нарадзіўся ў сяле Карма.

☺ Іван Шамякін напісаў раман «Злая *жонка*».

### ☺ БІЛЕТ НУМАР ТРЫНАЦЦАЦЬ

*Гэты павучальны выпадак адбыўся не на заліку, а пасля яго, калі я, стаміўшыся ад студэнцкіх разваг пра беларускую літаратуру XX стагоддзя, прыйшоў адразу ў Дом літаратара на пісьменніцкі з’езд.*

**«Нарабіў людзям клопату…»**

Да пачатку з’езда я не паспеў, але ў кулуарах напаткаў самога Івана Брыля. Ён, цікаўны да кожнай творчай асобы, у свой час прачытаў маю першую кніжку, пахваліў і даў рэкамендацыю ў СП. І на гэты раз завязаў гутарку:

— Якія навіны, Пятро? Як там твае студэнты?

— Добра студэнты, — адказваю я. — Сёння залік прымаў.

— Якія ж вынікі?

— Нічога. Але дваіх адправіў дахаты.

— Завошта?

— Ды Брыля не прачыталі, «Ніжнія Байдуны».

— О-хо-хо, — засмуціўся пісьменнік, — нарабіў людзям клопату.

Такі вось ён быў, разумны і добры. А не прачытаўшы «Ніжнія Байдуны» ўсё адно на залік лепш не прыходзіць!



### ☺ ПОКАЗКІ СТАРЭНЬКАГА ПРАХВЕСАРА

**Самы першы мужчына**

Экзамен па рэлігіязнаўстве. Здае блакітнавокая і даўганогая бландынка, прымае прафесар, неабыякавы да белагаловых. І хоць студэнтка, што называецца, ані ў зуб нагою і блытае Абрагама з Майсеем, выкладчык не схільны паставіць такой красуні нездавальняючую адзнаку. Таму ён пачынае яе ратаваць.

— Дзяўчына, — кажа ён, — я вам самае што ні на ёсць лёгкае пытанне задам, толькі вы ўжо, зрабіце ласку, на яго адкажыце. Згода?

— Пастараюся, — кажа студэнтка.

— Дык як звалі першага мужчыну?

Дзяўчына апускае вочкі, пунсавее і адказвае:

— Яго звалі Ігарок…

# Змест часопіса «Маладосць» за 2013 год


## КЛУБ РЭДАКТАРАЎ

**20 гадоў без СССР.** I—3; Ёсць такая прафесія. II—3; Імідж сучаснага пісьменніка. III—3; Як помніцца апошняя вайна. V—3.

## АД РЭДАКЦЫІ

**«Маладосць»: маладым — маладое.** IV—3.

## АПЫТАНКА

**ЛІСІЦА Ганна.** Каб атрымаць, трэба шукаць. IX—119.
**ШЫБУТ Ганна.** Што-небудзь з адценнем кіно Ціма Бёртана. XI—4.
**РЫЧАГА Віялета, ЛЕНСКАЯ Наталля.** Калядныя чытанні. XII—4.

## ЖЫРОВІЦКІ ДЫЯРЫУШ

**Айцец ЯЎСТАФІЙ (Халіманкоў).** I. VI—4; II. VII—7; III. VIII—4; IV. IX—4; V. XI—7; VI. XII—7.

## COSMOpoLITan-exPRESS

**АВЕРКАВА-ЛІТВІНАВА Вольга.** Масква—Мінск. Жыць на дзве сталіцы. XI—12.
**БАСАЛАЙ Наташа.** Гульня ў класікаў. VI—10.
**ВАРАТНІКОВА Аксана.** Цвяток Радзімы. VII—13.
**ГРАМЫКА Вольга.** Пиши исчо, дорогой автор. IX—11.
**ДУДЗІНСКІ ДЗЯНІС.** Эратычна-турыстычна-лінгвістычнае. VIII—14.
**РЫЧАГА Віялета.** Ціхі шорах сыходзячых з тэатра крокаў. XII—10.

## КУХНЯ МАШЫ ДУБРОЎСКАЙ

**ДУБРОЎСКАЯ Маша.** Хадзіць у грыбы — нібыта пісаць вершы. *Вольга Гапеева.* VII—10. Асцярожна! Кепскі фінал. *Пятро Васючэнка.* VIII—10. Акры свядомасці. *Руслан Найдзен, Арцём Кавалеўскі.* IX—8. У палявых умовах. *Януш Вішнеўскі.* X—137. Добры повар. *Таццяна Сівец.* XI—14. Рэжысура свята. *Алёна Беланожка.* XII—12.

## АД РУКІ

**БАРАВІКОВА Раіса.** Рабінавая гронка. *Верш.* IV—7.
**БАШЛАКОЎ Міхась.** Янку Купалу. *Верш.* IX—13.
**ДАЛІДОВІЧ Генрых.** Незалежнасць Беларусі... III—5; V—7.
**КАРАМАЗАЎ Віктар.** Урывак з кнігі «Брама» пра мастака Гаўрылу Вашчанка. VIII—9.
**ЛІПСКІ Уладзімір.** У маім акне... *Верш.* VI—9.
**РУБЛЕЎСКАЯ Людміла.** Пані. *Верш.* XII—11.
**САКОВІЧ Павел.** Яблынька. *Верш.* XI—9.
**САЛАМАХА Уладзімір.** Урывак з кнігі «Сусвет дабрыні». II—5.

## ПАЭЗІЯ

**АГАПОНАВА Вольга.** Зоркі пазбаўляюць ад пакут. *Вершы.* VIII—15.
**БАБІЧ Алена.** Хай стане маленнем верш. *Вершы.* IX—14.
**БАНДАРЭНКА Ксенія.** Зграйка няскончаных вершаў... *Вершы.* VII—14.
**БАСІКІРСКАЯ Алена.** Песня мая душэўная. *Вершы.* VI—54.
**БАРАНОЎСКІ Міхась.** Падарожжа да сябе. *Вершы.* IX—52.
**БАРЫСЮК Таццяна.** Рэінкарнацыя кахання. *Вершы.* I—18.
**БАТОРЫН Фелікс.** Адрозніць гордасць ад гардыні. *Вершы.* IX—63.
**БРУСЕВІЧ Анатоль.** Мова прывідаў. *Вершы.* I—37.
**ВАЛОДЗЬКА Станіслаў.** У небе мілай вотчыны маёй. *Вершы.* II—73.
**ГАЛАВАЧ Наталля.** Як мне з табою лёгка быць паэтам... *Вершы.* III—53.
**ГЕТМАНЧУК Уладзімір.** Шукаю позірк твой. *Вершы.* X—52.
**ГРАКОВІЧ Эдуард.** Не слабне ісціны святло. *Вершы.* III—13.
**ДАЛІМАЕЎ Аляксандр.** Лепшай долі сабе не жадаю. *Вершы.* VIII—22.
**ДУКСА Мар’ян.** Гартаючы кнігу быцця. *Вершы.* IV—30.
**ДЭБІШ Анатоль.** Паміж тлуму жыцця. *Вершы.* V—65.
**ДЭБІШ Васіль.** Калі сыдуць снягі. *Вершы.* V—28.
**ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ Алесь.** Калі ты побач — я шчаслівы. *Вершы.* V—17.
**ЗАХАРЭВІЧ Зміцер.** Сівы Пан мяне дабраславіць. *Вершы.* XII—14.
**ЗЭКАЎ Анатоль.** Дарога на радзіму. *Вершы.* II—18.
**КАВАЛЕЎСКІ Арцём.** Прызма часу. *Вершы.*VII—18.
**КАНДРАТАЎ Мікола.** Пан лес, пан лён, пан лёс... *Вершы.* VI—52.
**КОБЕЦ Марыя.** Дождж насцёбваў, біў у парасон. *Вершы.* X—17.
**КОЗЕЛ Андрэй.** Праз люстэрка. *Вершы.* III—7.
**КУДАСАВА Наста.** Немагчымасць расстацца. *Вершы.* XII—21.
**КУЛЬ Святлана.** Ян і Мар’яна. *Паэма.* XII—59.
**КУХАРЧУК Марыя.** І гутарым пра файнае надвор’е. *Вершы.* X—21.
**ЛАТЫШКЕВІЧ Маргарыта.** Рэха магутнага пачуцця. *Вершы.* VIII—35.
**ЛОГВІН Наталля.** Сезон дажджоў. *Вершы.* VI—11.
**МАКАРЭВІЧ Яўген.** «Спакойна я гляджу ў далечу...» *Верш.* I—39.
**МАЛАХОЎСКІ Рагнед.** Тысяча прычын вернасці. *Вершы.* VI—18.
**МАНДЗІК Вераніка.** На ўзмежку майго юнацтва. *Вершы.* IV—10.
**МАЦУЛЕВІЧ Валерый.** «Ў віхуры цемрадзі і злосці...» *Вершы.* II—75.
**МАЦЮК Бажэна.** Шукайце. Знаходзьце. Стварайце мяне! *Вершы.* II—45.
**МОЙСКІ Алесь.** Берагоў не знойдзеш у маёй ракі... *Вершы.* II—7.
**НОВІК Ганна.** Лірыка знікнення. *Вершы.* III—26.
**ПАМІЖ ТАЕМНАЙ ВЕЧНАСЦЮ І ЯВАЙ.** *Вершы.* X—54.
**ПАПКО Алёна.** Я застануся ў памяці тваёй. *Вершы.* V—9.
**ПЯТРОВІЧ Дзмітрый.** У паветраных замках маіх больш ніхто не жыве. *Вершы.* XI—49.
**ПАЦЯЮК Мікола.** Я заплюшчу вочы — ява сніцца. *Вершы.* X—30.
**САЛТУК Алег.** Шукаю згубленыя словы. *Вершы.* VII—31.
**СІВЕЦ Аксана.** Побач з зорамі, па-над дахамі… *Вершы.* I—7.
**СІДОРКА Настасся.** Жыццёвай прозы вечная паэзія. *Вершы.* X—10.
**СКАМЕЙКА Уладзімір.** Краіна дзяцінства. *Вершы.* IV—69.
**СЦЕПАНЧУК Святлана.** А сэрцу пяшчотнаму многа не трэба. *Вершы.* XII—48.
**ТАРАСЕВІЧ Генрых.** Дзе вы, мае юнацкія гады? *Вершы.* VII—48.
**ТРАФІМЧЫК Анатоль.** Наследаванне. *Верш.* XI—63.
**ХМЕЛЬ Анастасія.** У промнях разбэшчанай думкі. *Вершы.* XI—16.
**ЦВІРКО Наталля.** Каб пра галоўнае сказаць. *Вершы.* VI—39.
**ЧАРНЯЎСКІ Мікола.** «Маладосць — як поўня зорнай ночы...» *Вершы.* I—50.
**ШАБОВІЧ Мікола.** Споведзь салодкіх вуснаў. *Вершы.* VIII—67.
**ШАХ Соф’я.** Ад пакаяння да зачаравання. *Вершы.* IV—66.

**ШНЯК Максім.** Восень на вуснах. *Вершы.* IV—17.
**ШЧАРБАК Алена.** Дуб. *Верш.* IX—81.
**ЯВІЧ Яна.** Калі не згубімся пад парасонамі. *Вершы.* XI—47.
**ЯРАЦ Віктар.** Цвітуць вясёлкі ранняй восені. *Вершы.* XI—78.
**ЯСТРАБ Фёдар.** Не наталіць сардэчнай смагі. *Вершы.* XI—107.

**ПРОЗА**

**АБЛАЖЭЙ Арцём.** Кароткія апавяданні. XI—18.
**АДАМ Мікола.** Саша. *Апавяданне.* XI—52.
**АСІПУК Ганна.** SOS. *Апавяданне.* X—19.
**АЎЛАСЕНКА Генадзь.** Касмічная багіня палявання. *Апавяданне.* IX—66.
**БЕЛАХВОСТАЎ Антон.** Бурштын. *Апавяданне.* VIII—16.
**БУНТА Тамара.** Апельсіны. *Апавяданне.* VI—55.
**БЯЗЛЕПКІНА Святлана.** Лінія Дзюранда. *Аповесць.* XI—64.
**ВАШЧАНКА Аляксандр.** Rock forever, альбо Чатыры падарожжы ў мінулае. *Аповесць.* VIII—70; IX—82.
**ГАЛЬПЯРОВІЧ Навум.** «Хоча быць вашым сябрам...». *Апавяданне.* I—40.
**ГАПЕЕЎ Валерый.** Я размалюю для цябе неба. *Казка для дарослых дзяцей.* X—32.
**ГІГЕВІЧ Васіль.** Цёмная вада. *Апавяданне.* I—30.
**ГЛОБУС Адам.** Дзве школы. VIII—38.
**ДАМЕНІКАН Аляксандр.** Твары. *Апавяданне.* XII—17.
**ДАРАШЭНКА Ала.** Ён, мора, зямля ды неба. *Апавяданне.* III—10.
**ДЗЕМІДОВІЧ Тацця на.** Не плач, Лізанька. *Аповесць.* V—31.
**ЕГАРЭЙЧАНКА Сяргей.** У маланках нараджаецца раніца. *Апавяданне.* VI—13.
**ІВАНІНА Кацярына.** Мой любімы псіхолаг. IV—70.
**КАЗЛОЎ Анатоль.** Расхрыстанасць, альбо далонь на плячы. *Аповесць.* II—47.
**КАМІСАРАВА Алена.** Беззаганны. *Апавяданне.* I—9.
**КАРАЛЁНАК Жанна.** Апавяданне. I—20.
**КАРПЕЧАНКА Міхась.** Нярускі. *Апавяданне.* VI—41.
**КАСЯК Канстанцін.** Блог. *Апавяданне.* VII—16.
**ЛЕВАНОВІЧ Леанід.** Сем маленькіх цудаў. *Эсэ.* VIII—96.
**ЛІПСКІ Уладзімір.** Мілаградскі конік. *Аповесць пра Барыса і Дашу, пра эпоху далёкую і нашу.* VI—79.
**ЛУК'ЯНОВІЧ Паліна.** Гарадская. *Апавяданне.* II—10.
**ЛЯШУК Марыя.** Навелы. X—25.
**МАРТЫНОВІЧ Яўген.** Красавік. *Абразкі з вясновага сшытка.* IX—55.
**МАЦІН Сяргей.** Прага праўды. *Імпрэсія.* VII—45.
**МІНСКЕВІЧ Серж.** Усмешка Жалобнай Каралевы, альбо Тайна магнітнага замка. *Аповесць легендарных часоў.* I—53; II—76; III—28; IV—33.
**НАВАСЕЛЬЦАВА Ганна.** Легенда пра шыпшыну. *Міфалагічнае апавяданне.* II—20.
**НАРКЕВІЧ Стася.** Развітальны вясельны вальс. *Апавяданне.* IV—20.
**НАРЭЙКА Настасся.** Кароткія апавяданні. X—12.
**ПРОХАР Маргарыта.** Апавяданні. VII—34.
**ПЯРУН Галіна.** «Можаш не вяртацца...» *Апавяданне.* IV—34.
**РУБЛЕЎСКАЯ Людміла.** Гісторыя пані. III—15.
**РУЛЬ Яўгенія.** Па той бок шыбы. *Аповесць.* VI—21.
**САКОВІЧ Павел.** Маёр. *Апавяданне.* XII—77.
**САРОТНІК Валерыя.** Казкі для дарослых. XII—50.
**СТАСЕЛЬКА Кірыл.** Апавяданні. VII—21.
**СЦЯПАН Уладзімір.** Тры навелы. V—20.
**СЯНКЕВІЧ Мікола.** У аперацыйным блоку холадна... *Аповесць.* III—56.
**ТКАЧОЎ Васіль.** Апавяданні. I—43.
**ТУМІЛОВІЧ Наталля.** Апавяданні. XI—20.
**ФЕДАРЭНКА Андрэй.** Ціша. *Аповесць.* VII—50.

**ФЕДЗЬКОВІЧ Вікторыя.** Яблыкі. *Аповесць.* IX—16.
**ХАДАРЭНКА Ірына.** Усё будзе добра. *Апавяданне.* VIII—28.
**ЦІТАРЧУК Марына.** Легенда пра аленя. *Апавяданне.* V—11.
**ЧАКУР Ганна.** У чаканні экстрасэнса. *Аповесць.* XII—24.
**ШОРАЦ Ірына.** Ноч. Дзень. Ноч. *Апавяданне.* VIII—24.

## ДРАМАТУРГІЯ

**КОНЕЎ Ягор.** Забойца з роду Дастаеўскіх. *Гістарычная драма ў двух актах.* V—67; VI—59.
**МАРЧУК Георгій.** Усё будзе заўтра. *Меладрама.* XII—81.

## КЛУБ ДЗІЦЯЧЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

**АЎЛАСЕНКА Генадзь.** Кніга маёй мары. VI—8.
**МАСЛА Алена.** Чаму Карэла Чапека не крытыкуюць? IX—10.
**ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ Кацярына.** Пра творчыя арыенціры. VII—12.

## КРЫТЫКА

**АКСЁНАЎ Мікалай.** Тэмпаральныя канцэпты ў паэзіі Уладзіміра Жылкі. VI—118.
**ДАВІДОЎСКІ Зміцер.** Пра з'яўленне аднаго верша... І не толькі. VIII—112.
**ЖУК Алесь.** Напісанае застаецца жыць. III—102.
**ЗАЯЦ Наталля.** Кнігі ўжо ў дарозе. VI—115.
**КОНЕЎ Ягор.** Падчарка ва ўласным доме. I—93.
**ЛАПІЦКАЯ Алеся.** Гісторыя кахання і майстар-клас. IX—107.
**ЛОКУН Валянціна.** Атлантыда Анатоля Крэйдзіча. II—100.
**МАКАРЭВІЧ Васіль.** Па той бок вясёлкі. III—108.
**МОЎЧАН Ганна.** Калыханкі для каханкі. IV—94.
**НАЗАРАЎ Валерый.** Мрый — публіцыст. VIII—105.
**РАГУЛЯ Аляксей.** Вырвацца з д'яблавых рук. VII—91.
**САНЮК Дзмітрый.** Алесь Разанаў і дэкаданс. I—88.
**ЧАРНЯКЕВІЧ Ціхан.** Максім Гарэцкі і метафізіка. II—106; Васіль Быкаў. Адзінота і свабода. VI—122.

## ЭПІСТАЛЯРЫЙ

**КРЭЙДЗІЧ Анатоль.** Яе запавет — быць адзіннымі. X—6.
**МАРТЫСЮК Вячаслаў.** З неапублікаванай спадчыны Язэпа Драздовіча. XI—113.
**ЧАРНЯКЕВІЧ Ціхан.** З кагорты заснавальнікаў беларускага акадэмічнага літаратуразнаўства. VII—104; Нядоля Кулакоўскага: ліставанне з перакладчыкамі. XII—106.

## МАЙСТЭРНЯ З АНАТОЛЕМ ТРАФІМЧЫКАМ

**ТРАФІМЧЫК Анатоль.** Сучасны беларускі тэатр: праблемы, праблемы, праблемы... I—96; Дык хто ж там ідзе? V—87.

## ТЭМА

**ДЗЯНІСАВА Святлана.** Вёска. VII—132; А вы кажаце не Індыяна Джонс... VIII—8; А гузікі — каму шукаць? VIII—132.
**ЖДАНОВІЧ Іван.** Стан душы. VII—136.
**КОНЕЎ ЯГОР.** Сыход у віртуальнасць непазбежны. I—101; Чым болей, тым лепей. V—114.
**КСЯНЕВІЧ Нэлі.** Брыдкаслоўе. III—131.
**КУВАЕЎ Андрэй.** «Шляхціц Завальня» проста «просіцца» на стужку. V—117; Нешта неперадавальнае. VIII—136.

**ЛУПАСІН Віктар.** Кіно і немцы. Разважанні перад экранам. V—109.
**МУЗЫКА Ігар.** Што ні кажы, а ў паперы свае «плюсы». I—104.
**МЯЛЬНІЦКІ Ян.** Капаць можа далёка не кожны. VIII—138.
**КАРОТКІ УЛАДЗІМІР, НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЯ Ганна.** Моўная сітуацыя на Беларусі ў люстэрку гісторыі літаратуры: «парады мудрых людзей» і «навука добрых людцоў». III—116.
**СОДАЛЬ Уладзімір.** У кожнага была свая вайна. V—100.
**ШАШУКОЎ Аляксей.** Наша кіно. V—116.
**ЮРАГА Лаўрэн.** Літаратурны твор і мова. III—126.

## ДА ЮБІЛЕЮ ЧАСОПІСА

**БЕЗМАЦЕРНЫХ Кацярына.** Шчаслівыя-шчаслівыя працоўныя дні! IV—6.
**ГНІЛАМЁДАЎ Уладзімір.** Калі трэба ставіць шматкроп'е... IV—5.
**ЖДАНОВІЧ Валянцін ва ўспамінах дачкі Валерыі.** IV—105.
**МАЛЬДЗІС Адам.** Заўсёды нешта пачыналася з «Маладосці». IV—4.
**ПРАТАКОЛЫ ПАСЯДЖЭННЯЎ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ».** IV—123.

## KATHEDRA

**БАГДАНАВА Галіна.** Ключы з правам перадачы. VII—116.
**БЯЗЛЕПКІНА Аксана, КАПЦАЎ Уладзімір.** Фабрыка пісьменнікаў. VI—134.
**ВАСЮЧЭНКА Пятро.** «Ни хытру, ни горазду…» IX—115.
**КАВАЛЕЎСКІ Арцём.** Кафедра-аркестр. Вялікая імправізацыя. IV—128; Пад знакам «<» («crescendo»). XI—116.
**МАЛЬЧЭЎСКАЯ Алена.** Ад «Сіняй блузы» да тэатра.DOC. V—126.
**РЫЧАГА Віялета.** Другая нацэначная катэгорыя. VIII—118.

## АГЛЯД

**ЛОКУН Валянціна.** Літаратурныя далягляды Берасцейшчыны. X—56.

## АБСТАВІНЫ МЕСЦА І ЧАСУ

**ЛАЎРЭШ Леанід.** Гайцюнішкі. II—114; Калантаі і Зельзін. VII—124.
**МЯЛЬНІЦКІ Ян.** Вакол Каліноўскага. I—121.

## ГІСТОРЫЯ І ПОСТАЦІ

**ІОФЭ Эмануіл.** Гараўскі. II—119.
**КУВАЕЎ Андрэй.** Радзівілы. Скарбніца. Заняпад. I—109.

## РЭЦЭНЗІЯ

**ВАСЮТА Аляксей.** «Да кніжных скарбаў...» Мёд і дзёгаць. V—95.
**ЗАЯЦ Наталля.** Незнікомае святло. V—90.
**КРЫЎКО Мікалай.** Надзённа і актуальна. II—103.
**ЧАРНЯКЕВІЧ Ціхан.** Замовы і забавы. IV—97.

## УСПАМІНЫ

**ГРАХОЎСКАЯ Таццяна.** Сяргей Грахоўскі і Алесь Розна: сябры — равеснікі — паэты. VII—97.
**СОДАЛЬ Уладзімір.** Янка Купала і Уладзіслава Францаўна ў згадках Тамары Сцяпанавай. I—106.

## ПАДЗЕЯ

**МІЦКЕВІЧ Вера.** «...Хто родны скарб шануе...» I—127.
**МОЛАКАВА Вераніка.** Стагадовая дзяўчынка. I—124.

## ПАЛЕМІКА

**АЛЕКСЯЕВІЧ Ганна.** Белмова — спачатку мова. V—98; Якія мовы развітыя, а якія — не? VII—108; Бел. мов. versus беларуская мова. IX—121.

## З НАГОДЫ

**БЕРАСЦЕНЬ Святлана.** Вайна і мір Шчамялёва. II—127.
**ЛАЎРЫК Юрась.** Кнігі Куцейны. I—115.

## ПРАЛОГ

**ГАЛЬПЯРОВІЧ Навум.** Ад «Савецкага пашпарта». VIII—13.
**КОБЕЦ Марыя.** Другі гатунак. IV—134.
**ЛАЎРЭШ Леанід.** Праўду ў яміну не закапаеш. VI—8.
**НАРЧУК Мара.** Што заўгодна, абы не аскоміну! VIII—8.
**ШЭЛЯГОВІЧ Вольга.** Ніякага іншага неба... VII—4.

## БІБЛІЯГРАФІЯ

**ДЗЕНІСЕНКА Алена.** Прыжыццёвыя выданні Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў фондах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. IV—99; Экслібрыс Сыракомлі. XII—122.
**ФІРЫНОВІЧ Алена, МУРАШОВА Іна.** У засеках бібліятэчных схронаў. V—120.

## ЭСЭ

**СТАДОЛЬНІК Іван.** Расповед пра лепшага сябра. VII—111.

## РЭПАРТАЖ

**ЯРАШЭВІЧ Алена.** «Энергетык». Хроніка шматкроп'яў. VIII—121

## З ВАНДРОЎКІ

**ЖДАНОВІЧ Іван.** Ёсць логіка хады... VI—126.

## РАЗВАЖАННІ

**ДАЛІДОВІЧ Генрых.** Унутраны голас Анатоля Грачанікава. IX—111.

## КАМПЕТЭНТНА

**ДЗЯНІСАВА Святлана.** Выхаваць новага чалавека. VIII—125.

## АСАБІСТАЕ

**ГАЛЬПЯРОВІЧ Навум.** Былі крыніцы сінія. *Сентыментальная хроніка.* IX—127; XI—126.

## ПІСЬМЕННЫЯ ЛЮДЗІ

**АВЕРКАВА-ЛІТВІНАВА Вольга.** Агні вялікага горада. V—5.
**ЛУПАСІН Віктар.** Як вывучыць беларускую мову. IV—8.
**СОДАЛЬ Уладзімір.** Каб за край быў умерці гатоў!.. V—4.
**ШЭЛЯГОВІЧ Вольга.** У адным кроку ад цуда. I—4; Пра каханне. II—4. Справа тонкая. III—4; А нацыя ўсё прагне адукацыі. V—6.

## ЖЫЦЦЁВАЕ

**ШЭЛЯГОВІЧ Вольга.** Радасная падстава. VIII—12.

## ЛІТАРАТУРНАЕ ПАДАРОЖЖА

**КАСЯК Канстанцін.** Па слядах Ластоўскага. XI—10.

## ПАМЯЦЬ

**САРОТНІК Валерыя.** Усё — яна. II—124.

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

**КОНЕЎ Ягор.** Пара ўзбагачацца! V—118.

## ДЫЯЛОГ

**ДЗЯНІСАВА Святлана.** Каханне. Анатомія. II—109.

## ПАД ГАРБАТУ

**ЯНОЎСКАЯ Аксана.** Шчаслівыя імгненні. VII—120.

## НІШЦЯКІ Й ФЕНЬКІ

**БЕЗМАЦЕРНЫХ Кацярына.** Усведамляць. Асэнсоўваць. Не спяшацца. XI—121.

## БЕЗ ВЫШЭЙШАЙ АДУКАЦЫІ

**РЫЧАГА Віялета.** Зусім іншы цэх. XI—124.

## ВЯРТАННЕ

**БАРЫЧЭЎСКІ Яўген.** Параўнаньне ў мастацкай літаратуры. XII—115.
**ЧАРНЯКЕВІЧ Ціхан.** Забытая праца. XII—112

## ПАРТНЁРЫ

**БЕРАСЦЕНЬ Святлана.** Нефармат — гэта гучыць годна! II—129; Кропля жывіцы. Для душы. II—133; Чаму Эўтэрпа ўпадабала Брэст. III—132; Радасць супольнага грання. IV—131; У хоры толькі хлопчыкі. IX—124.

## КРАЯЗНАЎЧЫ ДАВЕДНІК

**КРЫВАШЭЙ Дзмітрый, МАЛЬДЗІС Адам.** Літаратурныя мясціны Беларусі. Краязнаўчы даведнік. V—129.


***Падрыхтавала да друку Кацярына ГОЛУБ***

# Змест часопіса «Бярозка» за 2013 год

**БЯРОЗКА № 1/2013 (1016)**

*Верасок.* Снежань паліць свае вогнішчы. **Ганна ДЗЕМЕШ, Марыя БАДЗЕЙ, Анастасія ХУРСЕВІЧ, Кацярына ЛЯСУН**.
**Алена БІРУКОВА**. Спыніся і… азірніся.
**Святлана СМЫК**. We are from Tolochin.
**Віталь ДРАБЫШЭЎСКІ**. На парозе сталага жыцця.
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**. Творчыя тынэйджары прасторнага Маладзечна.
**Кацярына ЛЯСУН**. Адкрыццё. Здзіўленне. Захапленне. Каханне…
**Яўгенія РУЛЬ**. Яшчэ адна гісторыя пра Папялушку.
**Вераніка ГАМЗЮКОВА**. Паўкаралеўства — за каня!
«Бярозка» наведала Марка Шагала. **Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**, **Паліна БУЧЭЛЬ**, **Маша БАДЗЕЙ**.
**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**. Да Бога з рок-н-ролам.

**БЯРОЗКА № 2/2013 (1017)**

*Верасок*. **Ганна ФІЛІСТОВІЧ, Антон КУЛАГІН, Анастасія БЕЛАРУСАВА.**
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**. Калі здаецца, што ўсё дрэнна.
**Наталля ЛЕНСКАЯ**. Рок — гэта жыць без правіл.
**Яўген МАРТЫНОВІЧ**. Сем рэчаў, якія я не буду рабіць, калі вырасту!
Школа наша — сусвет цэлы! **Света ГРЫБ, Каця БУЙНОЎСКАЯ, Гражына ЯЦЫНА, Рэната ЧАРНУШЭВІЧ, Віка ГВАЗДОВІЧ, Насця КАЖАРНОВІЧ, Таня ЖУК, Таня МНІХ, Насця МАЦОНКА, Віка ГВАЗДОВІЧ, Маргарыта КІСЯЛЕВІЧ, Сняжана ЦІКОТА, Крысціна ЧАРНУШЭВІЧ.**
**Наталля ЛЕНСКАЯ.** Неўміручая таямніца The Doors.
**Ганна СТАРЫКОВІЧ.** Шукаючы — знойдзеш!

**БЯРОЗКА № 3/2013 (1018)**

*Верасок*. Мяне кліча ў Полацк дарога. **Кацярына МАХНАЧ**.
*Конкурс Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь*. **Марына ЧЫЧАЕВА**. Не бойцеся быць добрымі.
**Вікторыя МАРТЫНОВІЧ**. Яны не разумеюць!
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**. Руплівая Воля!
**Вераніка ГАМЗЮКОВА**. Я люблю спорт!
**Анастасія ХУРСЕВІЧ**. Патрэбен чалавек.
**Карына ЧУЕС**. Адзін дзень з жыцця шасцікласніцы.
**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**. Трасянка?.. Трасянка!!!
*Конкурс школьных сачыненняў*. **Артур ХОМБАК**. І сніцца мне мора…
**Ганна СТАРЫКОВІЧ.** Шукаючы — знойдзеш!

**БЯРОЗКА № 4/2013 (1019)**

*Верасок*. Супраць ветру. **Уладзіслаў КАЛЕСНІКАЎ**.
*Конкурс Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь*. **Расціслаў КОЛБ**. Казка-апавяданне пра хлопчыка Зміцера. **Аляксандра УТЛІК.** Тата, мама, я і кніга.
**Любоў МЕЙСАК**. Калі спыніўся час.
**Святлана СМЫК**. Родная мова — лепшая спадчына.
**Вераніка ГАМЗЮКОВА**. Дзякуй за цяпло ў кватэрах!
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Барадаты, музычны, без узросту.
**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**. «Re1ikt» і яго пост-металкрыніцы.
**Ганна СТАРЫКОВІЧ.** Шукаючы — знойдзеш!

**БЯРОЗКА № 5/2013 (1020)**

*Верасок*. Еўрапейскіх прастораў аздоба... **Віялета ГАРДЗЕЙЧЫК**, **Аляксандра БОНДАР, Ганна ТКАЧЭНКА, Анастасія КАЗАК, Юлія ПАРФЕНЦАВА, Анастасія АЎЧЫННІКАВА.**
**Ягор ЛОБАЧ**. Мы помнім вас, дзеці вайны!
*Конкурс Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь*. **Лізавета ГАТАТУЛІНА**. І забаўляльная, і інтэлектуальная кніга. **Кацярына СІДСКАЯ.** Кнігі — сябры.
**Паліна БУЧЭЛЬ**. Шэдэўральнае анімэ ад Хаяо Міядзакі.
**Ганна СТАРЫКОВІЧ.** Шукаючы — знойдзеш!

**БЯРОЗКА № 6/2013 (1021)**

**Дзяніс ВАЛЯНСКІ**. Чалавек і ўніверсітэт.
**Андрэй ГОЛУБ**. Захапляльна дасціпныя сюжэты.
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**. Блаславёная зменлівасць Каці.
*Конкурс Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь*. **Таццяна САФРОНАВА**. «Калабок», Остэр, Чэхаў — неўміручыя хіты. **Марына АСТРАВЕЦКАЯ.** Раней кнігі ўпрыгожвалі каштоўнымі камянямі... **Мікіта СТЕШЫЦ.** Я з кнігай па жыцці іду ў нагу.
**Настасся СКРЫЦКАЯ**. Пра маё першае каханне.
**Таццяна КАРПЕКА**. Што там, за сімпатычнымі дзверцамі?
**Вераніка ГАМЗЮКОВА**. Пакуты вулічнага дварняка.
**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**. «Мумий Тролль» заспяваў па-беларуску.
**Ганна СТАРЫКОВІЧ.** Шукаючы — знойдзеш!

**БЯРОЗКА № 7/2013 (1022)**

**Вераніка СОНІЧ.** «Дарогі становяцца вузейшымі, калі мы вырастаем…»
**Ганна ШЫБУТ.** Самы добры ў свеце тата.
**Кацярына ЛЯСУН.** Яе чарговы дзень народзінаў.
**Ганна КАЛІНОЎСКАЯ.** Тутэйшая ідэнтычнасць.
**Святлана СМЫК.** Спявалі ля вогнішча піянерскія песні...
**Ян МЯЛЬНІЦКІ.** Цудадзейнасць гістарычнай мастацкай мапы.
**Юлія СТРЫГА.** «Зрабі гучней!»
**Ганна СТАРЫКОВІЧ.** Шукаючы — знойдзеш!

**БЯРОЗКА № 8/2013 (1023)**

**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** «Зубронак»!!!
**Анастасія ХУРСЕВІЧ.** У цябе ўсё атрымаецца.
**Аліна ЛІТВІНЕНКА.** Шпацыр з філасофскім настроем.
**Кацярына ЛЯСУН.** Мой улюбёны Дзядзя Сцёпа. Яго трагедыя.
**Паліна БУЧЭЛЬ.** Шчаслівая пятніца.

**Наталля ЛЕНСКАЯ.** Акіян.
**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Прыгоды над Волгай.
**Ганна СТАРЫКОВІЧ.** Шукаючы — знойдзеш!

**БЯРОЗКА № 9/2013 (1024)**

**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ.** Развітальны ліст любоўны.
*Верасок.* А восень на дрэвах фарбуе лісточкі. **Лізавета ЛАМАНОС, Кацярына МАКАРЧЫК, Юлія КАЖУХАР, Юлія КАЧАН, Павел ВАЛЕЎКА, Валерыя ЯКІМОВІЧ.**
**Генадзь АЎЛАСЕНКА.** Вася Лайдачкін і спрэчка планет.
**Ксенія РАГЕЛЬ.** Думкі з майго дзённіка.
**Юлія СТРЫГА.** Наша спадчына.
*Казкі са школьнага ранца.* **Мілана ЦЫРЫНСКАЯ, Ганна ТКАЧЭНКА.**
**Дар'я ШОЦІК.** Лёс гераічнай жанчыны.

**БЯРОЗКА № 10/2013 (1025)**

**Дар'я НІКАНЧУК.** Бацька.
*Верасок.* Каб бацькоўская мова кветкай цвіла... **Анастасія ВАРАБЕЙ, Маргарыта ЛЕАНЧУК, Юлія ПУПЧЫК, Наталля СУПРУН.**
**Дар'я ШОЦІК.** Знайдзі сваё прызванне, або Як пачаць займацца калекцыянаваннем.
*Казкі са школьнага ранца.* **Анастасія ДОЎГЕР, Вераніка ЛАБЕЦКАЯ, Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ, Лізавета САЕВІЧ.**
**Максім СЯМЁНАЎ.** Незабыўнае.
**Алеся ПАЦЕЕНАК.** Мая зямля.
**Генадзь АЎЛАСЕНКА.** Вясёлыя рыфмаванкі.
**Дар'я ШОЦІК.** Зорка з Усходу.
**Нанкіці НІІМІ.** Дрэва мінулага года, Ледзянец. (Пераклад з японскай мовы Юйэ Тацумі).

**БЯРОЗКА № 11/2013 (1026)**

*Верасок.* Хай у шчасці жывуць беларусы заўжды! **Андрэй ШЧАРБІЦКІ, Вераніка ДАРГЕЛЬ, Вікторыя ЗАХАРЭВІЧ, Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ.**
**Уладзімір МАЗГО.** Вякоў мінулых скон збалелым сэрцам чую...
*Казкі са школьнага ранца.* **Юлія ПАЦЕЕНАК, Лізавета САЕВІЧ, Ніна ПАЗНЯК.**
**Ірына ІСАЕВА.** Так трымаць, Данік!
**Кацярына ЛЯСУН.** Мелодыя натхнення.
**Генадзь АЎЛАСЕНКА.** Вясёлыя школьныя гісторыі.
**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.** Рэп-казка пра спатканне Вожыка з Радзімай.

**БЯРОЗКА № 12/2013 (1027)**

*Верасок.* Хай зіма да нас прыходзіць, хай падорыць людзям смех... **Паліна ЕЎЛАШЭЎСКАЯ, Аляксандра НОВІК, Вікторыя МЫСЛІЦКАЯ, Кацярына ВАЙЦЯХОВІЧ, Дар'я САЛАНІНКА.**
**Аліна ЛІТВІНЕНКА.** Як добра, што ўсе мы розныя.
**Серафіма ЖУКОЎСКАЯ.** Фарс пад назвай «сяброўства».
*Казкі са школьнага ранца.* **Святлана БУРВІН, Паліна ЮРЧАНКА, Аліна КУРУНТУ.**
**Дар'я ШОЦІК.** «Зубронак» сабраў юнкараў.
**Генадзь АЎЛАСЕНКА.** Навагодняя Сняжынка.

***Падрыхтаваў да друку Генадзь АЎЛАСЕНКЛА***